## Прапазыцыя

**Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе аднаразавай дапамогі для пацярпеўшага ад стыхійных выпадкаў жыхарства Віленскага і Навагрaдзкага ваяводзтваў.**

9-га траўня с. г. над тэрыторыяй Віленскага ваяводзтва (асабліва над паўночнымі паветамі), а таксама часткава над тэрыторыяй Навагрaдзкага ваяводзтва прайшоў нябывалай сілы віхор з навальніцай і градабіцьцем, выклікаючы жахлівыя спусташэньні. У адным Пастаўскім павеце болей як 500 сем'яў асталося бяз даху над галавою. Вялікая колькасьць жывога інвэнтара забіта ў часе разрушэньня будынкаў. У Дзісьненскім і Пастаўскім паветах каля ¼ часткі азімага пасеву выбіта градам. Жыхарства на тэрыторыях уцярпеўшых ад няшчасьця знаходзіцца ў жахлівым палажэньні, якое вымагае неадкладнай дапамогі. Жыхарства суседніх мясцовасьцяў не ўцярпеўшых ад няшчасьця з-за сваей беднасьці ня можа дапамагчы ўцярпеўшым, асабліва цяпер у часе г. зв. „przednówku wiosennego“. Дапамагчы можа толькі ўрад.

Высокі Сойм пастанаўляе:

Сойм заклікае ўрад:

1) Каб прыйшоў з хуткаю дапамогаю з будаўляным матэрыялам для адбудовы зьнішчаных віхураю будынкаў.

2) Каб распарадзіўся аб вызначэньні спэцыяльных крэдытаў для закупкі жывога інвэнтара замест зьнішчанага.

3) Каб дастарчыў збожжа на засеў выбітых градам тэрыторыяў.

4) Каб удзяліў грашавой дапамогі ці безпаваротных пазыкаў семьям, якія знаходзяцца ў благім палажэньні.

Просім аб сьпешнасьці.

Варшава, 29 траўня 1928 г.

У Скарбовай камісіі куды накраўлена гэтая сьпешная прапазыцыя, будзе рэфэраваць яе пасол Ярэміч.

## Сялянскі зьезд у Празе Чэскай.

Знагоды 10 угодкаў істнаваньня Чэхаславацкай рэспублікі, 15, 16 і 17 траўня б. г. адбыўся сялянскі зьезд у Празе, склíканы аграрнай (земляробскай, сялянскай) партыяй. Гэта найбольшая партыя, за якой ідзе партыя Людова "(Хрысьц. дэмокр.)". Правадыром аграрнай партыі ёсьць селянін Антось Швегла цяперашні старшыня рады міністраў. На зьезд прыбыло каля 300.000 сялян з усіх куткоў рэспублікі, ад кожнай вёскі былі прадстаўнікі. 15 траўня сяляне зьезджаліся, 16 кожны народ рэпрэзэнтаваў свае абычаі: песьні, музыку і скокі. Засядала міжнароднае аграрнае бюро (французы, галандцы і інш., „Зялены інтэрнацыянал"). 17 траўня адбыўся маніфэстацыйны паход сялян галоўнымі вуліцамі Прагі да б. каралеўскай, а цяпер прэзыдэнцкай рэзыдэнцыі Градчан, дзе заложаны фундамантальны камень на памятнік б. першаму Чэскаму каралю Пшэмыслу—Арачу.*) Працэсія пачалася ў 8½ г. раніцай, кончылася ў 1½ г. папалудні. На чале працэсіі ішлі паслы, сэнатары і міністры ад партыі, за імі госьці: югаславяне, баўгары, лужыцкія сербы і аграрная славянская эміграцыя; потым 2000 сялян ехалі конна; далей сяляне валасьцёў і акругоў. Кожнае ўгрупаваньне мела свой сьцяг і музыку; аркестраў было 130. Усе ішлі стройнымі радамі з музыкай і песьнямі, вітаючы прэзыд. Масарыка і старшыню міністраў Швеглу. Малюнак пекных рожнаколярных убраньняў, мараван, славакоў, Падкарпацкіх русінаў, сьлезакоў, ганачоў, шумаўцаў і інш. быў на толькі імпануючы, што не паддаецца апісаньню. На Градчанах іх спатыкалі старшыні Сойму і Сэнату, міністры, паслы іншых партыяў і дыплёматычны корпус.

З прычыны хваробы Швеглы дэлігацыю зьезду прадстаўляў прэзыдэнту Масарыку ў Лапах найстарэйшы аграрны пасол Станэк, які паміж іншым сказаў што земляробская партыя заўсёды будзе стаяць на грунце дэмократызму, як бясьпечнай асновы справядлівасьці, поўнапраўнасьці ўсіх грамадзян рэспублікі і парадку. Яна паставіцца супроць усякіх пакушэньняў нарушыць гэтыя прынцыпы. — Прэзыдэнт падзякаваў і паміж іншым сказаў, што ў дэмократычнай рэспубліцы так і павінна быць, што земляробства зьяўляецца фундамантам ўсяго, але трэба таксама дбаць аб фабрычным промысьле. Выказаў падзяку правадыру партыі Швеглу, з пажаданьнем, каб ён хутчэй выздаравеў і вярнуўся да сваіх абавязкаў. Была так сама адчынена гаспадарская выстаўка, якую адведана больш 100.000 чалавек.

Трэба адзначыць, што аграрная (сялянская) партыя заснавана ў восемдзесятых гадох прошлага веку, каб ратаваць чэскія землі, якія пачалі пераходзіць у нямецкія рукі; у 1898 г. яна мела толькі двох паслоў ў Чэскім Земскім Сойме ў Празе. Дзякуючы адналітасьці сялянства, энэргіі і дысьцыпліне, яна пад кіраўніцтвам пасла Станка так хутка разраслася, што незадоўга мела 37 паслоў у Венскім парляманце і 45 паслоў у Праскім Земскім Сойме. Пасьля абвяшчэньня, рэспублікі партыя была ў 1919 г. рэарганізавана і названа рэспубліканскаю партыяй, а 1925г. атрымала 972.000 галасоў і дастала 46 пасольскіх і 23 сэнатарскіх мандатаў. Ад 1909 г. правадыром партыі ёсьць Швегла.

*) Напачатку VII стогодзьдзя н. ст. калі дэпутацыя прышла заявіць Пшэмыслу, што ён выбраны каралём, Пшэмысл араў на полі пярэстымі валамі, адгэтуль ён „арач“ —

## Працэс Грамады.

### З прамовы ген. Бабянскага.

Частка народу, якая паходзіць з гэтага краю сядзіць на лаве вінавачаных. Чаму дайшло да гэтакай трагэдыі? Пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, у беларускім грамадзянстве паўстаюць арыентацыі. Луцкевіч едзе ў Парыж. Прыходзяць выбары ў Сойм. Беларускі Клюб на чале якога стаіць Тарашкевіч падтрымоўвае ўрад ген. Сікорскага. Тугуту, — які творыць кабінет міністраў, — Тарашкевіч абяцае падтрыманьне.

Тарашкевіч у Сойме праводзіў паланафільскую палітыку, якая можа нават не адпавядала імкненьням Беларускага Народу. З прычыны свайго паланафільства адхіляецца ад старшынства ў Клюбе.

### З прамовы праф. Петрусэвіча.

Паны судзьдзі! 10 сакавіка 1864 г, тут вось, на гэтым пляцы, перад гэтым судовым будынкам замардаваны былі мучанікі за „нашую і вашую вольнасьць". На гэтым пляцы згінуў Канстанцін Каліноўскі, першы выдаўца беларускай газэты „Мужыцкая Праўда". Каліноўскі пакінуў па сабе тэстамант, у якім заклікае Беларускі Народ злучыць свой лёс з паўстаньнем, асьцярагаючы яго перад найвялікшым ворагам-Масквою.

Я цьвярджу, што калі-б ня было беларускага руху, дык яго трэ' было-б стварыць. Але-ж гэты рух сам нарадзіўся і характэрна тое, што яго пачынальнікамі зьяўляецца польская шляхта. Ці гэта будзе Рыпінскі, ці Чэчат і Дунін-Марцінкевіч — усе яны былі прадстаўнікамі таго маладога руху і разумелі, што пачуцьцё нацыянальнай асобнасьці трэба збудзіць, бо Беларускі Народ выйграе Масква.

Паны судзьдзі, пакуль будзе істнаваць Польшча, датуль будзе ісьці барацьба паміж Варшавай і Масквою. Дык вось, ня трэба забываць, што паміж Масквою і Варшаваю ляжыць вялікая раўніна, якую занімае Беларускі Народ. Ня можа быць ніякага сумліву, што хто будзе мець Беларускі Народ пры сабе, той пераможа.

Беларускія дзеячы кіраваліся на Польшчу. Луцкевіч едзе ў Парыж. Былі ўсе варункі, каб перамог Рым, а не Візанція.

Я цьвярджу, што пакуль істнуе Польшча, яна мусіць мець крэсы, бо гэта яе істнаваньне. Калі Беларускі Народ жадае мець свае школы, трэба ім іх даць. Трэба памятаць, што ў беларускай мове напісаны Літоўскі Статут.

Луцкевіч ня быў у „Грамадзе“, ён пратэставаў проці таго, што яго ўмешвалі ў справы „Грамады“. Калі ён пісаў артыкулы ў газэтах, за якія канфіскавалі газэты, дык за гэта можа адпавядаць па 129 артыкулу К. К., але-ж не па 102. Закідаецца яму ідэйнае кіраўніцтва „Грамадою“, але-ж тыя творцы ідэйных рухаў, якія не бяруць дзейнага ўдзелу ня могуць быць пацягнуты да судовай адказнасьці.

Замест абароннай прамовы даволі прытачыць гэткія словы пасла Рагулі: „Пане Луцкевіч, за тваю працу Польшча паставіць табе памятнік, а Беларускі Народ уб'е кол у тваю магілу“. Гэта асьвятляе справу.

Гурын сказаў, што камуністычныя колы адносіліся варожа да Луцкевіча і хацелі яго пазбыцца. Прапанаваны быў яму нават выезд у Крым. Але Луцкевіч не згадзіўся.

### З прамовы адв. Эттінгэра.

Некалькі гадоў таму назад адбываўся аналёгічны працэс у іншым славянскім краі. На лаве вінавачаных сядзеў Радзіч, павадыр харватаў, які вінаваціўся за паразуменьне з крэстінтэрнам.

Апраўданньe вінавачаных у гэтым працэсе пагадзіла сербаў і харватаў. Апраўданьне вінавачаных у сучасным працэсе будзе мостам угоды паміж Беларусамі і палякамі.

Парадак зьезду нічым ня быў парушаны. Усе газэты (апрача камуністычн.) констатуюць, што да гэтуль так вялікага і трыумфальнага зьезду яшчэ ня было ў Празе. Вось, што значыць арганізацыя!

*Занямонец.*

Прага травень 1928 г.

## НАВІНЫ.

— **Канфіската.** № 32 „Беларускай Крыніцы“ па загаду меставага старасты канфіскаваны за артыкул, у якім выказваліся пагляды на асуд „Грамады". Рэдактар цягнецца да судовай адказнасьці.

— **Ужо пачынаецца.** 3. VI. сёл. г. у Навагрaдку арыштаваны пасол Стагановіч.

— **Лік дахтароў Беларусоў павялічваецца.** У суботу 10 чэрвеня с. году ў Віленскім Унівэрсытэце адбылася ўрачыстасьць—промоцыя на доктара гр. Грабінскага Баляслава, сябру Бел. Студ. Саюзу ў Вільні, і сябру Цэнтр. Камітэту Бел. Хрысьціянскай Дэмакрацыі.

Гр. Грабінскі па сканчэньні Унівэрсытэту атрымаў тытул доктара ўсіх лякарскіх навукаў.

— **Забастоўка ў Беластоку.** У Беластоку паўстала забастоўка работнікаў ткацкай прамысловасьці. Бастуе ўсяго 400 работнікаў; яны дамагаюцца павышэньне платы за працу.

ЯКУБ КОЛАС. 9)

## Новая Зямля.

(Працяг).

### IX

### НОВЫ ЛЯСЬНІЧЫ

Якраз на самым рассьвітаньні
Міхал вярнуўся з пахаваньня;
Вайшоў у хату, распрануўся,
Зяхнуў і смачна пацягнуўся,
Бо цэлы дзень праталачыўся
І, ноч ня спаўшы, утаміўся:
І цела соладка нейк ныла, —
Усё адпачыць яго хіліла.
І жонка тут не прыставала,
Пра сёе-тое распытала,
Уздыхнула раз, другі па пану.
— Ну, сьпі, а я хіба ўжо ўстану. —
І маці стала адзявацца,
Каб за работу тую брацца;
Пайшла каровак падаіла,
Картофлі сьвіньням перамыла.
Тымчасам сонейка з-за лесу
Зьняло цямраную завесу;
Праменьні, стрэлы залатыя,
Макушы лесу прабіваюць
І блескам-зьзяньнем высьцілаюць
Нябёсаў багны патайныя.
У чародах сьветаў няськічоных
Нерасчытаных, неадмкнёных,
Людзкі наш лёс — былінка поля,
Пылок нязначны — наша доля,
А нашы радасьці і сьлёзы,
Надзеі сьветлыя, пагрозы
І ўсё, чым жыцьце нас вітае,
Яно адзначнасьці ня мае
У зьвязку гэтых сьветаў Божых,
Таемных, страшных і прыгожых;
І жыцьце пэўнаю ступою
Ідзе, ня ведае спакою,
Людзкіх пакутаў не адзначыць
І страты іх яно ня бачыць.
— Эй, хлопцы, хлопчыкі! Уставайце!
Кароў на пашу выганяйце!
Даўно пара ўжо пасьвіць стадка! —
Алеся, Уладзю будзіць матка,
А хлопцы толькі ўзварухнуліcь
І на другі бок павярнуліcь.
Тут маці трошкі пастаяла
І галавою паківала:
Шкада будзіць — ох, сон салодкі!
Няхай пасьпяць яшчэ блазноткі.
Пагукваў дзядзька ўжо на полі
І ткаў сахою кросны-ролі,
Ды пырнік так укараніўся,
Што дзядзька з конікам таміўся
І сошку часта ён спыняе
І пырнік дзікі вытрасае.
— Ну-ж і балота! вось атрута,
То не работа мне — пакута:
Ступіў два крокі і спыніўся
Ды з гэтай пырніцай змагайся.
І як яны тут, ліха долі,
З сахой хадзілі ў гэтым полі?
Як тут расло, на міласьць Бога,
Калі ў зямлю ня ўб'еш нарога?
Дзьве баразны прайшоў—конь змогся...
Ну і народ, каб ён апрогся!
Так запусьціць зямлю нядбала?
Не гаспадар быў, а завала! —
Антось стаіць, штось развaжае
І хмурна поле аглядае,
А потым раптам схамянуўся,
Зірнуў на сонца, ў двор рвануўся.
— Хіба каровы яшчэ дома?! —
Спаткаўшы Ганну, ён пытае,
Ідзе ў гумно і хлопцаў лае:
— Вы што зашыліся ў салому?
Уставайце зараз, гультаіны!
Прайшло, лічы, ўжо дзьве гадзіны,
Як сонца ў небе засьвяціла,
Яны-ж.,, хоць ты ўсадзі ім шыла!..
Уставайце жыва, а то ўскочу,
Устаць вас борзда заахвочу! —
Усхапіліcь хлопцы і прыселі,
Устаюць з нагрэтае пасьцелі
І лапці зараз абуваюць.
За браму хлопцаў выпраўляюць.
Вось маці з хаткі выбігае,
Алесю торбу даручае,
А ў торбе хлеб і, пэўна, сала,
І весялей шмат хлопцам стала.
Калі ўжо сонейка прыгрэла,
Антось на полі кончыў дзела
І выпраг коніка сівога,
Свайго памочніка старога
Сівак з вялікім здаваленьнем
Прайшоўся вольна загуменьнем
І, баючыся ашукацца,
Ральлю панюхаў, стаў качацца
З такім засосам і ахвотай,
Бакі намуляўшы работай.
Антось глядзеў і пацяшаўся
І ціха сам сабе сьмяяўся.
У двары, дзе колісь была хата,
Цяпер работа йшла заўзята;
Майстры-жыды ўжо зруб канчалі,
Гірш з Моўшам дошкі пілавалі;
Ніяк ня знойдуць яны скутку
І ўвесь дзен сварацца за дудку,
Пілою водзячы па брусу;
А гэту дудку на пакусу
Празантаваў ім наш Антоні,
Дык Моўша з Гіршам і сягоньня
За тую дудку ўсё грызуцца
І чуць за пэйсы не бяруцца.
А Евель-Пеўнік з сваім сынам
Ужо пасьнедаў такім чынам,
Што і на нагах ён ня трымаўся,
Стагнаў у стружках і качаўся.
—Ой, гвалт, прапаў! ой, дух займае!—
Але ўсё-ж Айзіка пытае,
Які таксама зьеў ня ў меру:
— А што варыць нам на вячэру?
— Ты-б гэта выдахаў, пражора!
Набраўся так, што й не зсапецца,
А за вячэру ўжо бярэцца, —
І так "сяньнік" твой лопне скора! —
Антось да Евеля зьвярнуўся,
А Евель толькі усьміхнуўся
І зараз пеўнем абярнуўся:
Лоп-лоп рукамі. "Ка-ка-рэ-ку!"
Бо даў Бог талент чалавеку,
Якім ён часта выслаўляўся,
За што і "Пеўнікам" празваўся.
— Бадай ты спрогся! вось заводзіць!—
Антось са сьмехам адыходзіць,
Пад вусам сьмех яшчэ хавае,
Ідзе, Міхася сустрачае.
Міхась ужо крыху праспаўся,
У абход сягоньня ня зьбіраўся.
Другія думкі і настрoі
Усё не даюць яму спакою:
За кім лясьніцтва застанецца?
Адкуль і хто сюды прыпрэцца,
Пасаду вольную заступіць?
Карціць пытаньне гэта, рупіць.
Антось з Міхалам на сьняданьні
Даюць адказы на пытаньні
І кандыдатаў разьбіраюць,
Адных пахваляць, тых палаюць
— Вось, каб Галонскі тут застаўся!
За ім-бы, брат, памацкаваўся:
Такі прасьцяк, не падзіманы,
Лясьнічы вельмі-б пажаданы!
— Ды гэта так! — Міхал ўздыхае: —
Але за ручкі ён ня мае:
Яго паны не падтрымаюць,
Бо на прымеце іншых маюць-
Такога вышукаюць струпа
Ці адшчапенца-курашчупа,
Што й службе тэй ня будзеш рады
І адчураешся пасады.
— Вядома так, — і Ганна кажа: —

**— Асуд рэдактара „Сялянскай Нівы" грам. Герасімчука.** 4· VI.28, Віленскі Акружны Суд засудзіў рэдактара Герасімчука на 400 зл. штафу. А калі не заплаціць, дык адсядзіць два месяцы ў вастрозе за артыкул „Першае беларускае соймавае прадстаўніцтва", які быў надрукаваны ў „Сял. Ніве" № 92 за 1927 г.

**— Сьмерць коопэратара — Беларуса.** Гэтымі днямі памёр у Вільні копэратар — Беларус сьв. пам. Лукаш Арэхва. Пахавалі яго на праваслаўным магільніку Беліны 11 г. чэрвеня. Аддаць апошнюю паслугу памершаму сабралося шмат народу, як з пасярод беларускага грамадзянства, так і з лічбы супрацоўнікаў коопэрацыі. У часе пахароннае працэсіі іграла вучнёўская аркестра Віл. Бел. Гімназіі. Над магілаю выступалі з прамовамі паляк-копэратар Ясінскі, і ад Беларусаў коопэратары Крук і Будзька.

Нябошчык гр. Арэхва прыймаў удзел у беларускай грамадзкай працы. У мінулым годзе, чытаў лекцыі на коопэратыўна-гандлёвых курсах, якія ладзіліся Бел. Інстытутам Гас. і Культуры.

Чэсьць яго памяці!

### Беларускі канцэрт.

З прычыны першых угодкаў заснаваньня БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ТЭАТРУ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ ГАСПАДАРКІ і КУЛЬТУРЫ

ў Вільні, у Суботу 16-га чэрвеня с. г., у кватэры Інстытуту (Вострабрамская 8—1) адбудзецца

БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ

Праграма:

I. „Хам"—драма ў 4-х актах Э. Ожэшко.
II. Хор пад кіраўніцтвам гр. А. Чайкова.
III. Агульныя скокі на салі.

Пачатак а $8^{1}/_{2}$ гадзіне ў вечары.
Білеты ў цане ад 1 зл. да 3 зл.

**— Учадзеўшая рэдакцыя.** У Вільні, на Віленскай вул. у доме № 12 ёсьць рэдакцыя, якая выпускае ў беларускай мове газэты пад рознымі назовамі. Нядаўна быў назоў: „Голас Працы", а цяпер ужо: „Зара Працы". Можна было думаць, што гэта рэдакцыя ёсьць фактычна беларускай, аднак выясьнілася, што гэтая рэдакцыя, выслугоўваючыся чужацкім інтарэсам, толькі карыстаецца беларускаю моваю, бо сама па сваім пераконаньням не зьяўляецца беларускаю.

Доказам гэтага зьяўляецца наступны факт. Выйшла з друку кніжка Якуба Коласа „Сымон Музыка". У сувязі з гэтым была паслана ў рэдакцыю, на Віленскай № 12 адпаведная абвестка з просьбай аб зьмяшчэньні. Тым часам ужо выйшла некалькі нумароў гэтае быццам беларускае часопісі, аднак абвесткі аб кніжцы ў іх не знаходзім.

Больш чым дзіўным зьяўляецца гэты факт. Сьведчыць ён аб тым, што супрацоўнікі ці кіраўнікі „Зары Працы" на столькі ўчадзелі партыйнай грызьнёй і ненавісьцяй да Беларусаў — незалежнікаў, што ў гэтае ненавісьці пачынаюць тапіць здабыткі беларускае выдавецкае культуры.

**— Паслы на службе ў пэпаэсаў.** У нядзелю 2-га чэрвеня, у Вільні польская сацыялістычная партыя (P P S-lewica) ладзіла веча. На гэтым вечы выступалі з прамовамі, як ня дзіўна, а беларускія паслы са „Змаганьня" Я. Гаўрылік і Ф. Валынец. Адным словам, ў беларусаў з пад знаку „Змаганьня" ўсё ідзе паводле прыказкі: „Скачы ўража як пан кажа"!

## Новая літоўская канстытуцыя.

25 г. траўня прэзыдэнт літоўскай рэспублікі са згоды ўсяго складу міністраў і дзяржаўнага кантралёра абвясьціў новую канстытуцыю (аснаўныя законы дзяржавы).

Канстытуцыя распачынаецца параграфам, у якім гаворыцца, что Літва зьяўляецца незалежнай дэмакратычнай рэспублікай; сталіца яе—Вільня.

Сойм выбіраецца агульным, роўным, простым, тайным і прапарцыянальным галасаваньнем. Правам голасу карыстаюцца ўсе грамадзяне рэспублікі, якія маюць 24 гады. Выбранымі да сойму могуць быць асобы, якія маюць 30 гадоў.

Прэзыдэнт рэспублікі выбіраецца на сем гадоў, а сойм на пяць гадоў.

Прэзыдэнт мае права не зацьвердзіць закон прыняты соймам, аднак-жа, калі сойм другі раз большасьцю $^{2}/_{3}$ галасоў прыме той самы закон, дык прэзыдэнт у такім выпадку павінен будзе зацьвердзіць яго.

Канстытуцыя будзе пастаўлена на ўсенароднае галасаваньне, не пазьней 10 гадоў ад часу яе абвяшчэньня.

Новая канстытуцыя 26 г. траўня абвешчана ўжо ў урадавай газэце. Выбары ў сойм, паводле гэтай канстытуцыі маюць адбыцца за 6 месяцаў.

# ВЕСТКІ З КРАЮ.

### „Беларуская" школа.

(Гулі—Пастаўскага павету).

Перачытаўшы ў № 8 „Сялянскае Нівы", у якой п. Гуляўскі ганіць нашую вучыцельку і ўсе яе „мэтоды" навучаньня, я мусіў сам праканацца, ці ўсё гэта праўда. І вось, дабраўшы адзін сьвяточны дзень, пайшоў да суседа, якога дзеці ходзяць у школу, каб паглядзець і папытацца, як яны вучацца. Я стаў прыглядацца на іхнюю працу, якую яны мне з ахвотай паказвалі. Бяру ў рукі адзін сшыток — „kajet rachunkowy". Праўда, на першай староны нейкія „рахункі", але на другой дык ужо былі нарысаваны: коні, каровы, наклееныя паперкі ад цукеркаў усялякіх гатункаў.

Бяру другі сшыток—„kajet do pisania białoruskiego". Пытаю дзяўчынку, якая ўжо чацьвёрты год вучыцца: —„ці вучыце вы граматыку?" Дае адказ: „чорт яе знае, якая гэта граматыка". А што-ж вы пішаце ў гэтым сшытку? — Вучыцелька напіша на дошцы, а мы сьпісваем—адказвае дзяўчынка.—Раскрываю сшыток, чытаю напісаныя сказы: „Dzieci ŭmieli kisiel waryć. Hetyj pastuch był głuchij!". Чаго-ж лепшага трэба? Гэта-ж мова „эспэранто"!... Кончыўшы гэткую „школу" будзеш разумець ўсе мовы!?

Аднак, дакуль-жа будзе цягнуцца гэтая гульня ў „беларускую школу"!? Каб школьная кураторыя адчыніла ў Гулях фактычна беларускую школу, дык такая „прафэсарка" не вучыла-б у нас ніводнае гадзіны.

Сусед.



Жыцьцё і сьвет табе завяжа,
Як гад які сюды прыцрэцца;
І няма ведама, дзе дзецца,
Як дапячэ табе часамі,
Хоць ты наймайся батракамі.
— Эх, брат! — махнуў Міхал рукою: —
Мы чулі ўладу над сабою,
А пажывём яшчэ пачуем,
А тут, хоць як мы ні мяркуем,
Але нічога не даб'ёмся,
Куды ні пойдзем, ні таўкнёмся,
Добра ніколі ня прыдбаем
Пакуль свайго кутку ня маем.
— Свайго кутку! сказаць то лёгка,
Ды гэта справа вельмі крохка:
Тут грошай трэба поўна жменя —
Ня наша голая кішэня...
Купі зямлю ды замацуйся,
Купі ты лесу, пабудуйся,..
А ў Мікалаўшчыну вярнуцца —
Ўжо лепей тут як-небудзь гнуцца,
Бо там — галда, там шум, цяснота
І не бярэ ніяк ахвота
Туды зноў ехаць будавацца,
Дык трэба службы ўжо трымацца,
Пакуль яшчэ трымацца можна, —
Антось зазначыў асьцярожна,
Да дзяцькі маці далучылась,
Ў другі бок мова пахілілась;
І будзе новая тут хата,
Пасада пашаю багата,
Ніхто цябе тут ня сьціскае
І ў твой гаршчок не заглядае,
Сядзець ня будзеш тут бяз хлеба,
А пацярпець, вядома, трэба.
— Так пацярпець! адно цярпеньне
І можа даць табе збавеньне, —
Тут усьміхнуўся Міхал скрыва: —
І гніся век, цярпі маўкліва,
Пакінь ты ўсякую надзею
Хамут з сябе зьняць, дабрадзею!
А над уласнай гаспадаркай
Варонай чорнаю закаркай
І цяжкі крыж пастаў над ёю,
Як мусім ставіць над сабою.
Цярпеньне - ўсё: яно - бязьмежнасьць!
Навошта-ж тая незалежнасьць?
Навошта гэтае імкненьне
Пусьціць у грунт у свой карэньне?
Але-б вы самі спрабавалі,
Калі-б у вочы вам плявалі
І вас агіднаю зьнявагай
Па сэрцы білі-б, як тэй шлягай!
А ты маўчы, сьвяці вачамі
Перад паўпанкамі, панкамі
І перад панскім розным збродам,
Цярпеньнем скованы, як лёдам! —
Ў Міхала губы дрыганулі
І вочы іскры сыпанулі.
— Ці мала ўжо цябе тут гнулі?
Цярпі, маўчы, знасі пакорна,
А кожная сьвіньня надворна,
Сьвістун ці вырадак паганы,
Няшчасны, лёкай падзіманы,
Ці так нікчэмная басота,
Яна твайго ня варта й бота, —
Цябе скубе, цябе ўшчувае —
Маўчы! няхай-жа бэсьціць, лае,
За нос, як хоча, няхай водзіць! —
Антось і Ганна не знаходзяць,
Што адказаць і што парадзіць
І як пытаньне гэта ўладзіць.
Прайшла нядзеля і другая —
Час не стаіць і не чакае.
Ўжо хата новая гатова,
Прыбраны трэскі ўжо і дровы;
Над белым дахам, як карона,
Красуе комінак чырвоны;
Прыветна вокны пазіраюць:
Бы вас у госьці запрашаюць, —
Ну, добры выгляд хата мае,
Яна і цешыць, здавальняе.
Сюды сямейка перабралась,
І гэта хата паказалась
Пасьля зямлянкі проста раем.
— Хоць хату добрую, а маем, —
Ня тое цеснае скляпеньне! —
Казала маці ў здавальненьні: —
Чысьцютка, сьветла, бы ў пакоі! —
Прыемна пахла тут смалою
І сьвежым дрэвам, хваіною.
І ўсё здавалася-бы гладка,
Каб так ня скончылась загадка
Аб тым падлоўчым на кватэры.
Аб'езчык, самы той Ксавэры,
Прынёс навіну ў гэту хату.
— Не падвязло нашаму брату:
Пякельны пан! — Ксавэры кажа: —
Як ноч, на нас на ўсіх ён ляжа.
— А хто такі? — Міхал пытае.
— Бадай яго Міхал ці знае:
То пан Ракоўскі з-пад Татаркі!
Як кажуць, пан занадта шпаркі...
— Пастой, пан, прозьвішча знаёма!
Ну, так: я чуў аб ім, вядома...
Дык пан Ракоўскі! Ну, віншую!
Пакажа нам, дзе рак зімуе! —
І ха-ха-ха! — Міхась рагоча:
Ён паказаць тым сьмехам хоча,
Што ашукаліс нечакана,
Прыдбаўшы гэтакага пана.
— А як-жа! чуў я, што за пташка!
Лядачы нораў, лае цяжка,
Яшчэ і звычай такі мае,
Што з кулакамі налятае. —
Лясьнічы новы не зьявіўся,
А ўжо, як трэба, уявіўся;
Усё падробна расьпісалі,
Як-бы яго даўно тут зналі:
І як ён выглядзіць сабою,
І што ён мае за душою,
І чым выдатны і багаты,
Ці кавалер ён, ці жанаты,
Калі, дзе чым ён вызначаўся,
Як да людзей слатой чапляўся, —
Ну, адным словам адчыталі,
Ўсе косьці пану перабралі.
І праўда, пан быў злы, паганы
І зьвераваты, падзіманы,
І мух ня мала меў у носе.
І шмат цяжэй тут павялося.
І вось, вярнуўшыся з абходу,
Як-бы апушчаны у воду,
Міхал павёў апавяданьне,
Як вышла першае спатканьне.
— Іду, а ён дарогай валіць,
За ім вярхом Абрыцкі смаліць.
Пад' ехаў гэта і спыніўся.
— Дзень добры пану! — пакланіўся,
А ён, як слуп, і не зважае,
Глядзіць, бы воўк той, і пытае:
— А ты дзе служыш, чалавеча?
— Служу, паночку, я ў Парэччы.
— Ага!.. чаму гэта ягомасьць
Вядзеш вялікую знаёмасьць?
Чужых цялят бярэш на пашу?
Наскрозь я бачу службу вашу!
Чаму аб'ездак, сьцежак многа?..
Пільнуйся ты свайго парога,
Бо мне такіх служак ня трэба:
Для гультаёў ня маю хлеба,
Дык памятай, чаго наймаўся! —
Сказаў і далей паімчаўся.
— Ну, ўжо ўвялі цялят у вушы!
Ох, да і людзі-ж! што за душы! —
Гаворыць маці абурліва.
— Чаму ня скажуць? ото дзіва!
Той самы "Тэш", каб падлізацца,
Гатоў хоць чорту запісацца,
Яшчэ прыбавіць і размажа! —
У гневе дзядзька Антось кажа.
Апавяданае здарэньне
Зрабіла цяжкае ўражэньне.
— Ну, што-ж? цярпі, маўчы зацята,
Бо так выходзіць, небажаты: —
Наня ся, кажуць, як прадаўся! —
Міхал злосьмешна адазваўся.

(Далей будзе).

# З жыцьця Польшчы.

### Новыя вялікія арышты.

Варшаўская польская газэта „Głos Prawdy“ падае вестку аб тым, што на абшарах Зах. Беларусі адкрыта новая антыдзяржаўная арганізацыя. У сувязі з гэтым ужо арыштавана 250 чалавек на тэрыторыі—Беластоцкага, Наваградзкага і Віленскага ваяводзтваў.

### Прадукт для вывазу.

Газэты пішуць, што адна гандлёвая фірма ў Варшаве зьвярнулася да польскага ўраду аб дазволе вывозіць з Польшчы за граніцу чалавечыя скелеты (косьці бяз мяса), для навуковых мэтаў. Быццам урад яшчэ гэткага дазволу ня даў. Абдумвае справу, бо зьявіліся ў газэтах весткі, што скелеты пойдуць не для навуковых мэтаў, а проста на штучнае ўгнаеньне поля, пасьля перамолу іх на муку.

### Хмара шаранчы.

8 г. чэрвеня, як падаюць газэты, каля Накла пад Быдгошчам на Памор'і прайшла вялікая хмара шаранчы. Жыхары акалічных вёсак пахаваліся ў хатах. Аднак-жа шаранча ніякае шкоды не прычыніла.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Асуд эльзаскіх аўтанамістаў.

Француські суд у Страсбурзе асудзіў на 8 мес. вастрогу двух эльзаскіх аўтанамістых з пазбаўленьнем грамадзкіх правоў і высяленьнем з краю. Асуджаны яны за тое, што праяўлялі дзейнасьць у мэтах здабыцьця ад француззаў аўтаноміі для эльзаскага народу.

### Ангельская культура на Салямонавых выспах.

У Тулазе, у сталіцы Салямонавых выспаў, закончыўся судовы працэс, у якім разглядалася справа некалькіх тутэйшых жыхараў, што ванаваціліся ў забойстве ангельскіх акупацыйных урадоўцаў і 15 матросаў. Ангельскі суд прыгаварыў: 7 падсудных на сьмерць, трох—на бестэрміновую катаргу, а 13—ад 10—20 гадоў вастрогу.

### Выбары ў Латвіі.

У самым хуткім часе латвійскі сойм распускаецца. Адбудуцца новыя выбары. Аб падгатоўцы да выбараў латвійскіх Беларусаў нешта няма ніякіх вестак.

---

# Гаспадарскі аддзел.

(*З кнігі аграноме Люста*).

### 26. Фасфарычная мука.

Фасфарытная мука атрымліваецца з асобага каменя, званага фасфарытам. Фасфарыт спатыкаецца ў розных мясцовасьцях розных краёў. Залягае ён у зямлі на некаторай глыбіні, а іншы раз і на паверхні, пластамі ці асобымі кускамі рознай формы.

Фасфарыт выяўляе сабою пясок, склееныфосфарнакіслаю вапнаю, так што ня ўсё, што знаходзіцца ў фасфарыце, служыць для ўгнаеньня, а толькі некаторая частка яго, якая складае ня больш палавіны агульнай яго масы

Каб атрымаць з фасфарыту муку, яго спачатку паляць у печах, пасьля чаго ён лёгка раздрабляецца ў парашок шэрага ці цёмна-шэрага колеру. Фасфарытная мука з розных мясцовасьцяў зьмяшчае ў сабе неаднолькавую колькасьць фосфарнай вапны. Апрача таго, фосфарна-кіслая вапна ў іх неаднолькава лёгка распускаецца ў грунце. Ёсьць такія фасфарыты, фосфарнакіслая вапна каторых зусім не перайходзіць у грунце ў расцечу і, якая, дзеля гэтага, не надаецца для ўгнаеньня грунтаў.

Фосфарнакіслая вапна фасфарытаў яшчэ цяжэй распускаецца, чым касьцяное мукі, дзеля гэтага і ўжываюць фасфарытнай мукі для ўгнаеньня больш, чым мукі касьцяное. Кладуць фасфарыту ад 30 да 50 пуд., сярэдне 40 пуд. на дзесяціну.

Перад рассыпкаю на ральлі яго трэба зьмяшаць з зямлёю ці пяском.

Пуд фасфарыту перад вайню каштаваў ад 30 да 40 кап., цяпер больш-менш такая самая цана.

У выніку таго, што фосфарная вапна ў фасфарыце трудна распускаецца, яго можна ўжываць толькі на ўгнаеньне кіслых сенажацяў і балатлівых грунтаў, бо кіслата, якая ёсьць у гэтых грунтах, разьядае фосфарнакіслую вапну фасфарыту і робіць яе расцечлівай у грунтовай вільгаці.

На іншых грунтах ужываць яго ня трэба.

Каб атрымаць з фасфарыту ўгнаеньне, у якім-бы фосфарнакіслая вапна лёгка распускалася ў грунце, яго абрабляюць моцнаю кіслатою (купарвасным маслам). Кіслата разьядае фасфарыт, вынікам чаго фосфарнакіслая вапна ў ім робіцца лёгка расьцечлівай у грунтовай вільгаці. Угнаеньне, якое атрымліваецца пасьля абработкі фасфарыту кіслатою называецца супэрфасфатам (шэры парашок).

### 27. Супэрфасфат.

Дзеля таго, што фосфарнакіслая вапна супэрфасфату лёгка распускаецца і даступнейшая для корму расьлін, ужываюць супэрфасфату на ўгнаеньне ў меншай колькасьці, чым фасфарыту. На дзесяціну кладуць яго, звычайна, ад 12 да 24 пуды. Калі-ж супэрфасфат ужываецца ў дабавак да ўгнаеньне гноем, дык даюць яго грунту яшчэ ў меншай колькасьці, — ад 9 да 18 пудоў. Супэрфасфат дзее на расьліны хутка, але, за тое, его дзеяньне трывае толькі адзін год. На другі год дзеяньня яго на расьліны звычайна не заўважаецца.

Ужываць яго трэба на грунтах болей цяжкіх, таму што лёгкарасьцечлівая вапна, якая ў ім зьмяшчаецца, на пясчаных грунтах можа з дажджавою вадою прасачыцца ў глыбейшыя слаі, куды карэньні расьлін не даходзяць. Дзее суперфасфат добры на ўсялякае збожжа. Вельмі добрае дзееньне аказвае ён такжа на канюшыну, бульбу, капусту і агуркі.

Рассыпаюць яго за дзён тры да пасеву, але ня трэба яго зьмешваць з насеньнем, бо ён яго псуе (ён кіслы). Перад рассыпкаю яго трэба зьмяшаць з зямлёю ці пяском, бо ў такой мешаніне ён раўнамерней раскідаецца на паверхні ральлі. Пасьля рассыпкі супэрфасфату ральлю звычайна барануюць, але лепш мелка загараць.

У прадажы супэрфасфат бывае розны, з большым і меншым зьместам фосфару. Выгадней купляць супэрфасфат з большым зьместам фосфару. Ніжэйшыя гатункі супэрфасфату маюць фосфару каля аднэй восьмай часьці (13 працэнтаў *), пуд такога супэрфасфату ца так —13°/о.

перад вапнаю каштаваў 56—57 кап. (цяпер каля 15 зл. за 100 кілё—6 пуд.). Вышэйшы гатунак яго фосфару зьмяшчае каля аднэй пятай часьці (19-20°/о); пуд. такога супэрфасфату перад вайной каштаваў 72-73 кап. (цяпер каля 20 злот. за 100 кілё 6 пудоў).—Гэта цэны, за якія можна купіць яго ў Вільні.

*) Слова працэнт азначае сотая часьць Калі кажуць, напр., 13 працэнтаў, дык гэта значыць 13 сотых частак. Заміж слова „працэнт“ пішуць знак °/о, таму і „13 працэнтаў“ у пісьме азначаец-

---

# СТАТУТ

## Беларускага Коопэратыўнага Земляробска-Прамысловага Банку ў Вільні.

З абмежаванаю парукаю.

(Канчатак).

Арт. 26. Пастановы на Агульным Сходзе могуць прыймацца толькі ў справах, датычачых парадку нарадаў.

Пастановы прыймаюцца звычайнаю большасьцю галасоў прысутных сяброў за выняткам пастановаў аб зьмене статуту, абмежаваньні і ліквідацыі коопэратыву (арт. 40).

Правамоцныя пастановы Агульнага Сходу абавязваюць усіх сяброў.

Арт. 27. Да выключнай кампэтэнцыі Агульнага Сходу належаць:

1) Выбар і адклікаьне сяброў Ураду і Наглядная Рады;

2) Азначэньне найбольшай колькасьці крэдыту, які можа быць даны аднаму сябру;

3) Азначэньне найвышэйшай сумы абавязаньняў, якія коопэратыў можа набіраць;

4) Зацьверджаньне балянсаў і гадавых справаздачаў;

5) Падзел прыбытку; абазначэньне спосабу пакрыцьця стратаў;

6) Прыняцьце пастановаў адносна рэвізыйнай справаздачы;

7) Зьмена статуту;

8) Закрыцьцё і ліквідацыя коопэратыву.

Арт. 28. Дырэкцыя (Урад) Банку складаецца з трох сяброў, выбраных Агульным Сходам на тры гады. Кожнага году выступае адзін сябра Дырэкцыі па чарзе старшынства. Першага і другога году сябры выступаюць праз кіданьне лёсаў. Выступаючы сябра можа быць выбраны ізноў.

Арт. 29. Дырэкцыя прадстаўляе Коопэратыў у судзе і за судом без асобых паўнамоцтваў, а так-жа вядзе ўсе справы Коопэратыву, тасуючыся да пастановаў аб Коопэратывах, гэтага статуту і рэгулямінаў і пастановаў Агульнага Сходу.

Арт. 30. Паседжаньні Ураду адбываюцца ў меру патрэбы. Для прыняцьця правамоцных пастановаў Ураду трэба прысутнасьць на паседжаньні і згода найменш двух сяброў.

Арт. 31. Фірма Беларускага Коопэратыўнага Зем.-Прам. Банку падпісваецца такім чынам, што пад пячаткай з даслоўным назовам фірмы ўласнаручна падпісваюцца якія-небудзь два сябры Дырэкцыі.

Арт. 32. Урад можа ўстанавіць паўнамоцнікаў ці то для вядзеньня ўсяго прадпрыёмства, ці аддзелу, ці то для пэўных дзейнасьцяў. Гэтакія паўнамоцнікі ня могуць без асобага упаважненьня набываць, збываць і абцяжваць нярухомасьць, падпісываць вэксалі, браць пазыкі і весьці працэсы.

Арт. 33. Наглядная Рада складаецца з трох сяброў і трох заступнікаў, выбіраных на тры гады Агульным Сходам. Кожнага году выходзіць адзін сябра і адзін заступнік па чарзе старшынства выбараў. Першага і другога году сябры выходзяць шляхам кіданьня лёсаў. Выходзячыя сябры могуць быць выбраны нанова.

Арт. 34. Наглядная Рада павінна старанна глядзець над вядзеньнем інтарэсаў Урадам, асабліва пераглядаць гадавое заканчэньне рахункаў, а вынікі перагляду прадстаўляць Агульнаму Сходу. З гэтаю мэтаю можа кожную хвіліну ў цоўным складзе, ці цераз дэлегаваных сяброў пераглядаць кнігі і доказы і беспасрэдна правяраць стан усіх частак маемасьці, можа ў выпадку патрэбы браць рэчазнаўцаў. Апрача таго, Наглядная Рада пры выконваньні сваей дзеяльнасьці павінна тасавацца да пастановаў закону аб Коопэратывах, гэтага статуту і пастановаў Агульнага Сходу.

### V. Рахунковасьць.

Арт. 35. Урад Коопэратыву вядзе кнігі і рахункі згодна з гандлёвым кодэксам.

Календарны год ёсьць адміністрацыйным годам Банку.

Кожнага году з днём 31 сьнежня зачыняюцца ўсе рахункі Банку і робіцца агульнае гадавое рахунковае заканчэньне і балянс. Па спраўджаньні Наглядною Радаю гадавая справаздача прадстаўляецца Агульнаму Сходу на зацьверджаньне.

Як паступаць з гадавым заканчэньнем рахункаў падрабязней установіць рэгулямін Банку.

Арт. 36. З чыстага прыбытку выказанага гадавым рахунковым заканчэньнем, Агульны Сход, на падставе прапазыкаў Наглядная Рады, прызначае Банку суму, патрэбную на апрацэнтаваньне цалком унесеных паёў сяброў Банку ня вышэй двух (2%) працэнтаў над нормаю дысконту Польскага Банку.

Рэшта чыстага даходу служыць на тварэньне адпаведных спэцыяльных рэзэрваў і агульнага запаснога капіталу, пакуль гэты не дасягне сумы роўнай суме сяброўскіх паёў. Як гэга наступіць, Агульны Сход пастанаўляе на аснове прапазыцыяў Наглядная Рады аб прызначэньні рэшты агульнага прыбытку пасьля аканчальнага ўфармаваньня спэцыяльных рэзэрваў.

Арт. 37. Усе рэзэрвовыя капіталы зьяўляюцца маемасьцю Банку і выключна служаць на пакрыцьцё яго балянсавых страт, сябры Банку да іх ня маюць ніякага права і ня могуць жадаць іх падзелу.

Арт. 38. Страта, якая вынікае з рахунковага заканчэньня, пакрываецца перадусім спэцыяльнымі рэзэрвамі, з агульнага рэзэрвовага капіталу.

Арт. 39. Калі рэзэрвовы капітал не выстарчае на пакрыцьцё стратаў, на гэтую мэту прызначаюцца сяброўскія паі, роўналежна ў адпаведных адносінах да іх вышыні. Непакрытую гэткім спосабам надвышку страты павінны даплаціць у гэтых самых адносінах уласьнікі закладных укладаў паявых на аснове статутовай парукі з абмяжаваньнямі прадбачанымі ў 14 атр.

### VI. Зьмена Статуту і ліквідацыя Банку.

Арт. 40. Зьмену статуту ці ліквідацыю Банку праводзіцца згодна з арт. 75, 76—84 Закону.

Арт. 41. У выпадку ліквідацыі Банку маемасьць яго, па здаваленьні крэдытораў і звароту закладных укладаў і паёў аддаецца ў распараджэньне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Вільні, ці іншай кроўнай арганізацыі.

Арт. 42. Усе абвесткі, вымаганыя Законам аб Коопэратывах і гэты Статут, павінны зьмешчвацца ў газэце „Сялянская Ніва“ ў Вільні.

### Закладчыкі.

(Подпісы) Адам Більдзюкевіч, Янка Васілеўскі, Вячэслаў Багдановіч, Фаб'ян Ярэміч, Канстанцін Юхневіч, Янка Шутовіч, Павал Каруза, Альбін Стэповіч, Антон Васілеўскі, Вільгельм Малей, кс. Адам Станкевіч, д-р Браніслаў Туронак, Сьцяпан Сьвістун, Янка Куніцкі, Лявон Дубейкоўскі.

### DECYZJA.

W Imieniu Rzeczypospolitej Polskiej. Dnia 17 lutego 1928 roku Sąd Okręgowy w Wilnie Wydział Rejestru Handlowego, po rozpoznaniu zgłoszenia Zarządu Spółdzielni pod firmą „Białoruski Bank Spółdzielczy Rolniczo-Przemysłowy w Wilnie z ograniczoną odpowiedzialnoścą“ o zarejestrowaniu jej statutu, na zasadzie art. 5 ustawy o spółdzielniach z dnia 29 października 1920 roku pastanowił: Statut powyższej spółdzielni zarejestrować.

(—) W. BRZOZOWSKI
Przewodniczący Wydziału.

Wciągnięto do rejestru Spółdzielni, dnia 18.II. 1928 r. za Nr. 576.

Za zgodność: Sekretarz (podpis nieczytelny).

---



Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.    Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.